## ЛІРЫЧНЫ КАМЕНТАР
## ДА НАШАГА РАДАСЛОЎЯ

Мы ўзышлі не з насення, што ветрам занесена,
Мы не дзікай травы самарослыя парасткі.
У глыбінях зямлі, гераічнай і песеннай,
Нашых душ карані — з вузлякамі упартасці.

Сокам вотчынных гоняў ад роду мы ўспоены,
Сонцам родных нябёс мы з маленства аблашчаны,
Як асілкі-дубы над дняпроўскімі поймамі —
Паяднаныя часам нашчадкі і прашчуры.

Мы на золку далёкім ардзе не скарыліся,
Славай Грунвальда выйшлі ў вялікія ратнікі.
Нас будзіў да святла стук друкарань скарынінскіх.
Да братоў мы гарнуліся сэрцамі братнімі.

Каліноўскі дарэшты пазбавіў нас кволасці —
Веру мужнасць сваю завяшчаў нам з-пад вісельні.
З гнеўнай лірай Купалы і з эпасам Коласа
Мы спазналі сябе і свой голас узвысілі.

Мы ўздужэлі пад Сцягам Кастрычніка полымным,
У працоўных атаках на моц старасветчыны,
У грымотах-пажарах у дні векапомныя,
Калі кожным чацвёртым свой выбар засведчылі.

Гэтай повязі кроўнай, якой мы прывязаны
Да бацькоўскай зямлі,— не парвуць, не растурзаюць
Аніякія буры-вятры непрыязныя,—
Нашы сэрцы ад іх толькі больш загартуюцца!

І як вечна вясне святкаваць тут агледзіны,
Мовай радасці з долам і небам гамонячы,—
Так і нам у вяках тут, з братамі-суседзямі,
Жыць і верыць у лёс незахмарана-сонечны.

*1980*



## ВЫМІРАЮЦЬ ПЛЯМЁНЫ

Выміраюць плямёны:
Туземцы краіны — індзейцы,
Жыхары Акіяніі,
Абарыгены Аляскі...
«Проста — самі сабой,
Бо ад шлюбу не родзяцца дзеці»,—
Не саромяцца баяць паны
«Навуковыя» казкі.

Ад вялікага некалі роду
Цяпер засталося
Дваццаць пяць чалавек.
Пад нагляд узялі медыцынскі.
Толькі ўсё безнадзейна —
Загінуць ім суджана лёсам:
Адціскаў іх асвечаны брат,
Адціскаў і... даціснуў.

Выміраюць плямёны —
Знікаюць навек, назаўсёды,
Вызваляючы свет
І ад мовы сваёй і ад песні.
Выміраюць накшталт
Рыбаў, птушак, раслін, насякомых,
Што ў чырвоную кнігу жыцця
У пару не занеслі.

Адыходзяць ад моцных і ўпэўненых,
Ад жыццялюбаў —

З вінаватай і горкай
Усмешкай на вуснах:
«Прабачце!
Заміналі мы вам!..
Цесна з намі было вам тут, людзі!
Зараз стане свабодней
Крычаць вам пра роўнасць і брацтва...»

Вы,
Што ў кожную бомбу
Ладуеце слепа мільёны —
Абаронцы правоў і свабод
І наскрозь дэмакраты,
Гэта ў вас на вачах
Выміраюць, знікаюць плямёны!
Выміраюць, як рыбы.
Як птушкі,
Як дрэвы,
Як травы...

З імі —
З відамі фаўны і флоры —
Даўно і надзейна
Вы ўраўнялі ў правах
І плямёны і цэлыя расы.
Ах, як шчыра з трыбуны
«Клапоціцеся» пра людзей вы,
Абаронцы свабод і гарантый...
Для ўласнае касы!

*1980*

## НА ЗАХОДНЕЕЎРАПЕЙСКІЯ ТЭМЫ

Сацыялісты блакуюцца з «правымі».
Што ж, ваша воля, панове.
Блакуйцеся!
Цісніце ручкі ўзаемна.
Мілуйцеся!
Цьмяныя хітрыкі сталі яскравымі.

Зрэшты,
нічога няма ў гэтым дзіўнага.
Вы тут не першыя
дый не апошнія.
Проста —
бліжэй вам да сэрца вяльможныя.
Болей супольнага з імі,
адзінага.

«Шлюбы» такія ўжо знала гісторыя.
Памяць слабая ў вас, мабыць,—
іначай бы
Вы прыгадалі б і самі,
вы бачылі,
Чым завяршыліся
з іх
некаторыя.

Як не асадзіць народ
азвярэлыя
Сілы,
што дыхаюць контррэвалюцыяй —

Будзеце ў петлях хістацца
на вуліцах,
Як і нямілыя сёння вам «левыя»!

Вы крывасмокаў шкадуеце,
«бедненькіх».
Смокчуць жа ўсё-такі «з помыслу з божага»!
Хопіць, маўляў:
папалохалі збольшага
Дын супакоіць пара
захрыбетнікаў.

Чымся разгон пралетарскага поезда —
Лепей
на колцах буржуйскіх
прасоўванне.
Боязна волі народа працоўнага.
Сцягу чырвонага —
вось чаго боязна!

*1980*



* * *

Два-тры дразды на цэлы лес —
Пераклікаюцца, нібыта
На анямелым полі бітвы
З байцом параненым баец.
Жывы, браток?
— Пакуль — жывы!
Ды цішыня гняце пакутна:
Пі падсалоўкі больш не чутна,
Ні берасцянкі, ні жаўны...

Вось толькі мы на цэлы лес.

Праргрэс, мой братачка, праргрэс.

*1980*

## АКАДЭМІКУ Г. І. ГАРЭЦКАМУ

Найслынны ў краі ў нас геолаг,
Равеснік веку на зямлі,
Не з роду хліпкіх або кволых
У свет навукі Вы прыйшлі.

Ваш крок не дробны, шлях не вузкі,
І моц у постаці відка,
Асілкі з казак беларускіх —
Вам несумненная радня.

Ні дня не знаючы спачыну,
Тварылі Вы, бы ўласны лёс,
Антрапагенную карціну
Зямлі, што люба нам да слёз.

Абрыс дакладны і праўдзівы
Нам сёння можа расказаць,
Якім быў воблік-твар Радзімы
Мільён гадоў таму назад.

Кудой цяклі калісьці хвалі
Пра-Нёмана і пра-Дняпра
І дзе іх рэчышчы схавалі
Адклады-залежы дабра;

Якое дзе здабыць багацце
Пам трэба ў долах векавых,
Каб годна чуцца ў роднай хаце
І на павагу мець правы.

Ваш творчы плён — не плод ілюзій,
Ён прымушае думаць нас
І пра нябачны той алювій.
Што намывае ў душах час.

Ці ёсць там россып залацінак?
Ці — толькі гравій і пясок?
Ці не пара паклапаціцца,
Каб матчын дар не перасох?

Усё, чым радуе нас сёння
Саюз пароды і вады,
Да нас ішло з вякоў прадоння,
І Вы заглянулі туды.

Такую даль глыбінь, я знаю,
Разгледзець можа толькі той,
Хто бачыць будучыню краю
Празорчым сэрцам і душой,

Хто верыць свята і трывала
У свой народ перад усім,
Як верыў Колас, і Купала,
І брат старэйшы Ваш, Максім.

Штодзень навукі полем ратным
Вяло Вас гэта ж пачуццё,
І стала подзвігам сапраўдным
Ўсё Ваша слаўнае жыццё.

*1980*

## КАЛЯ ПОМНІКА МАРЫІ ЗАНЬКАВЕЦКАЙ У КІЕВЕ

*Дз. Паўлычку*

Над кручамі высокімі дняпроўскімі,
У садзе, ледзь абуджаным вясной,
Апанаваны думамі няпростымі,
Стаю прад ёю ў цішыні начной.

Калісь, праслаўленая, знакамітая,
Яна прыехала ў губернскі Мінск,
І Беларусь, слязьмі нядолі ўмытая,
Пачула: «Наш, сястра, паклон прымі...»

І ўбачыла: у зрэнках воч засмучаных —
Адзін нясцерпны, невымерны боль.
І зразумела: гэта — лёс замучаных,
Яна жыве ім — не ўдае сабой.

Не ўцешыла яе старонка братняя —
З журбой вярнулася ў журбу сваю...
Вялікае, святое, нерастратнае
Мяне трымае тут, дзе я стаю.

І нават уначы, у мяккім мораку,
Мне добра бачна — лепей не ўявіць —
Маленне рук, ля сэрца гэтак згорнутых,
Як бы яно ёй і цяпер баліць.

*1980*

Апошні аўтобус... Апошні трамвай...
Даўно ім прысвечаны вершы.
І ў песнях уславілі — едзь і спявай!
Л першы?.. Вы ехалі першым?

У першы аўтобус, тралейбус, трамвай —
Сядалі на досвітку рана,
Калі яшчэ толькі пачне небакрай
Ледзь-ледзь ружавецца крамяна?

Апошні — нярэдка ваш дзень завяршаў,
Вы бег яго добра спазналі.
А першы — каб першым паспець за варштат —
Вы ў думках «хутчэй!» падганялі?

Апошнім — з гасцей прыбывалі дамоў,
З гарачых сяброўскіх абдымкаў.
А першым — хоць раз вы да тых жа сяброў
Прыехалі з радай-падтрымкай?

Апошнім — вы звыклі ў запознены час
Вяртацца, правёўшы каханне.
А першым, прызнайцеся, першым хоць раз
Прымчаліся вы на спатканне?

Шчасліва ж вам ездзіць любою парой -
Апоўдні, увечар, уночы.
І — досвіткам, мілыя! З першай зарой!
І з першым народам рабочым

*1980*

## ТВАЁ ІМЯ

Маналог

Да 1300-годдзя Балгарыі

Бачу яго
на сатлелых старонках нятленнае,
у кнігах, напісаных літарамі
солуньскіх мудрых братоў,
што свету славянскаму іх падарылі
на ўжытак-карысць і на шчасце,
каб вечна свяціліся, ззялі,
будзілі і клікалі
к розуму, к праўдзе,
к братэрству людзей і народаў.

Чую яго
у вуснах воінаў Самуіла,
аслепленых у візантыйскім палоне,
што адно сэрцам убачылі
родныя горы-даліны,
слухаючы шалясценне лістоты на буках,
журчанне патокаў
і бомы званочкаў на выпасах,
прагна ўдыхаючы ў грудзі паветра,
прапахлае
шчымлівай журбою дымкоў
ад аўчарскіх цяпельцаў.

Бачу яго
па замглёных ад даўнасці
фрэсках Баяны —
у ацалелых,
прыгожых і простых абліччах,

у сумных, вялікіх вачах
святамучаніц і святамучанікаў,
што з болем і скрухай адвечнай
пытаюць:
навошта ж, навошта —
столькі пакут,
варажнечы, і гвалту,
і кровапраліцця на свеце?

Чую яго
як плач-лямант,
як крык, што душу раздзірае —
лямант соцень жанчын і дзяцей
у ахопленым полымем храме Батака,
крык, што ўзносіцца з дымам-агнём
вышай гор,
ад жуды анямелых,
і неба сабой працінае,
і дні, і гады, і стагоддзі,
і кожнае сэрца,
і кожнае сэрца, калі яно — сэрца.

Бачу яго
на каменнай чашме пры дарозе,
зробленай калісь трывала і хораша
майстрам адменным,
што пажадаў невядомым застацца,
аднак жа і сёння
нас, падарожнікаў,
просіць ласкава спыніцца,
смагу ўталіць
і адчуць
смак гаючай вады з яго роднага долу.

Чую яго,
непрамоўленае,

нявыказанае,
у безабаронных грудзях,
у пяшчотным і полымным сэрцы
вялікага сына Балкан, ваяводы-паэта,
што сходзіць з сябрамі
па бераг Дуная і моўчкі
цалуе зямлю —
прысягае на вернасць:
па смерць або па перамогу.

Бачу яго
па пагорках і на курганах —
на каменных падробках,
па манументах гранітных
у Плеўне, у Варне, у Плоўдзіве,
на перавалах паднебных
і ў ціхіх далінах,—
дзе наша братэрства
ахрышчана двойчы крывёю,
супольна пралітай
у бітвах за волю і шчасце,
за дружбу — з вякоў і па векі,
на вечныя векі!

Чую яго
як малітву
у вуснах сяброў маіх верных —
тых, што па-брацку дзяліліся
ласкай-любоўю са мною,
тых, што яшчэ
абдыму неаднойчы, спаткаю,
тых, па якіх
я ўсё болей смуткую і плачу,—
што назаўжды развіталіся,
роднаму краю,
цэламу свету і мне сваё сэрца аддаўшы.

Чую і бачу...
І сам вымаўляю, але —
не проста з выпадку, не проста...
А як і калі
гэта імя
увайшло мне ў душу — не прыпомню.
Можа быць, з песняю той -
аб апошнім паходзе Шышмана?
Можа —
з балючым і гнеўным пытаннем Паісія:
«О, неразумны, юродзівы,
дзеля чаго ты саромеешся
называцца балгарынам?..»
Можа — з гамонкай агністых сцягоў
у святочнай Сафіі?

Чую і бачу...
А ў думках — часцей і часцей
і ўсё болей раўніва
родны свой край беларускі,
бацькоўскі свой дом аглядаю
і, прыкладаючы ўсё,
што за імем тваім,
да імя і да лёсу зямлі,
дзе нарадзіўся і вырас,—
аднойчы адчуў, што ў мяне
сэрца зрабілася
болей відушчым і чуйным,
вера — гартоўнаю болей,
а мэта — яснейшай.
Вось жа за гэта перш-наперш
і ўдзячны табе я, краіна
з імем прывабным, далёкім і блізкім,
як мара аб шчасці:
Б а л г а р ы я .

*1981*

* * *

На горад аціхлы, на скверык адталы.
Але яшчэ шэры і голы,
Цярушыцца дождджык вясновы, світальны,
І, мабыць, затое — вясёлы.

Таполі маўкліва выпростваюць плечы,
А ў думках іх мары снуюцца:
Шапоча лістота, і птушкі шчабечуць,
І ў гнёзды яечкі кладуцца.

*то*



* * *

Няма агідных песень у прыродзе.
Нашто ўжо не пяюн крумкач стары,

А ў першую адлігу ў новым годзе
Як ён пяшчотна крумкае ў бары!
Які прывабны кліч яго птушыны
У прадчуванні веснавых уцех!..
Агідны спеў заўсёды — спеў фальшывы.
Прыродзе ж невядомы гэткі грэх.

***1982***

Зноў на ўзлеску цвітуць-дацвітаюць арэшыны —
У жаўтлявых падвесках каткоў-завушніц.
Дуб над імі, усёй гэтай пушчы старэйшына,
Дрэмле ў думках аб блізкай пары навальніц.

Тут, у гушчы кустоў, у кудлатым ляшчэўніку,
За даўжэзны свой век, кожным летам, як жнуць,—
Колькі чуў ён дзіцячага гоману-шчэбету!..
І яшчэ, і яшчэ раз хацеў бы пачуць!..

*1982*



***

Падлесак цярэбяць у лесе густым —
Бязладна парослыя сосны і елкі.
Ад вогнішча долкамі сцелецца едкі,
Прапахлы ўспамінамі даўнімі дым.

Па плану — у парк ператворыцца лес,
Ён будзе дагледжаны, чысты і рэдкі,—
Наскрозь ён праглядзісты будзе,— і гэткі
Камусьці, відаць, спадабаецца лепш.

*1982*

* * *

Вясна пяе, і свішча, і шчабеча, -
На паплавах, на нівах, у лясах, -
І ўсюды просьба чутна: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў шчаслівых галасах!»

Вясна гудзе, і зумкае, і крэхча —
Па доле, у паветры, на вадзе,—
І ўсюды тая ж просьба: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў нас! А то — быць бядзе!..»

*1982*



* * *

На голых галінках намоклых кустоў,
Ужо акрыялых ад сну, як жывыя,
Іскрынкі-расінкі зіхцяць дажджавыя
І просяць як быццам: «Спыніся! Пастой!
Забудзься на хвілю аб скрусе-журбе.
Па цуд палюбуйся! Пабач і запомні:

Калі б у нас сонца не ўспыхнулі промні —

Мы толькі макрэчай былі б для цябе».

*1982*

І нашы песні даўнія і скокі
Стварылі продкі для сябе саміх.
Яны ж нясуць і сёння ў свет шырокі
Імя зямлі, што акрыліла іх.

Калі табе, пясняр, патрэбны ўрокі —
Дык вось адзін: старайся гэтак пець,
Каб дом свой родны песнямі сагрэць
Тады пачуе іх і свет шырокі!

*1982*

* * *

Стометроўкі, стометроўкі, стометроўкі...
Вось дзе цешацца з рэкордаў бегуны.

Іх імёны ставіць прэса ў загалоўкі.
Прызнаюся: не цікавы мне яны.
Марафонцы мне цікавы, марафонцы!
Не якісьці там маланкавы рывок,
А працяглы, нават, можа быць, бясконцы
Бег,— а нават і не бег: спакойны крок.
*1982*



* * *

Шкадуеш, што па памяць нават дробязі
Аб тым, далёкім, у цябе няма?

Калі з былым ніякай іншай повязі —
То і аб гэткай шкадаваць дарма.
Калі ж хоць нешта ў сэрцы азываецца
Шчымлівым болем, светлаю журбой,—
Дык, значыць, тое ўсё, што варта памяці,
Табе падорана — яно з табой.
*1982*

* * *

Як страшны летапіс, твае каменні я
Чытаў усцяж усіх дарог... Але
Найлепей зразумеў твой лёс, Арменія,
У храме, выдзеўбаным у скале.
Якая ж воля трэба! Як хацелася
Самім сабой твайму народу быць,

Каб у гары, ў каменнай глыбе цэласнай

Такі прытулак для душы зрабіць!

*1982*



## АРМЯНСКАМУ СЯБРУ

За далінай — рукою падаць —
Арарат беласнежна-праменны.
Ты глядзіш на яго, задуменны.
О, як шмат табе, бачу, відаць!
Аж не сцерпеў — па міг даланёй
Засланіўся, правёў па міжброўю...
А я думаў: адкуль столькі болю
У вачах у матулі тваёй!..

*1982*

## ДЫЯЛОГ
## ПА ДАРОЗЕ НА СЕВАН

— З чаго нашы хаты, масты, гарады?
— З камення, мой браце, з камення.
— А скуль гэты смак вашай цуда-вады?
— З камення, мой браце, з камення.
— Адкуль у вас сокі бярэ вінаград?
— З камення, мой браце, з камення.
— А скуль гэта вера, што я табе брат?
— Са спадчыны: з мук і цярпення.

*1983*



## ВЕЧАР
## У АКОЛІЦЫ БЯРКОВІЦЫ

*Івану Давыдкаву*

Шум рачулкі ў цішы вечаровай —
На каменных парожках... Аб чым
Ты мне шэпчаш язычніцкай мовай
Пад навіслым кустоўем ляшчын?

Буду слухаць да ранку начную
Векавечную песню вады,—
І адно зразумею-пачую:
Што калісь быў і я малады.

*1983*

## ПЕРАСЯЛЕНЕЦ
## З ПАДНОЖЖА ВІТАШЫ

*Мінцы Далапчыевай*
*Найдзену Вылчаву*

Сцюжная зольная снежная рані..
Што ж за прычына, што позірк яснее?
«Здравец» балгарскі — лясная герань —
Пышным кустом на акне зелянее.

Быццам з таго незабыўнага дня —
З кожнага лісціка-перасяленца
Льецца, струменіцца, тхне цеплыня
Братняга краю і братняга сэрца.

*1983*

## БАКІНСКІ ЭКСПРОМТ

Ну й базар у Баку! Ай жа й выбар багаты!
І чаго толькі тут па гасцінец няма:
Мандарыны, лімоны, айва і гранаты,
Алыча і інжыр, і міндаль, і хурма!

Столькі водару-паху разліта ў паветры,
Столькі фарбаў і колераў роднай зямлі,—
Што навек не паверу, каб тут у паэтаў
Сумна-шэрыя, посныя песні былі!

*1983*



## КРЫГАЛОМ

Няхай яшчэ, у змове з небам,
Хавае сонца ў хмары твар,
Няхай шпурляе сівер снегам,
Як быццам ён тут валадар,—

А ўсё ж вясны ўжо чуцен подых:
Яе прыход мы пазнаём
Па тым, як трушчыць лёд нязгоды
Жаночай ласкі крыгалом.

*1983*

## ВЫЗВАЛЕННЕ

Бачу і сёння вас, змораных маршам і спёкай,
Брудных ад поту і пылу, ды з песняй на вуснах,
Нас, што дайшлі ад Масквы і ад Волгі далёкай
Да папялішчаў нямых між бароў беларускіх...

Я ж і дагэтуль бягу вам насустрач за вёску,
Каб паглядзець, ці даўгая пыліцца дарога:
Колькі ідзе вас? Ці сіла вялікая ў войску!..
Як мне хацелася пераканацца, што многа!..

*1983*



## НА УЗГОРКУ ПЯСЧАНЫМ...

На ўзгорку пясчаным цвіце жаўтазель —
На брацкай магіле дзяцей партызанскіх.
Стаю і гляджу, як па кветках зіркастых
Блукае маленства далёкага чмель.

Мы разам раслі тут — пад небам адным:
Смяяліся, плакалі, песні спявалі...
Той смех спапялілі, той спеў расстралялі,
А плач — уцалеў: ён у сэрцы маім.

*1983*

## ХЛЕБ І МУЗЫКА

Паслухаўшы ў канцэрце
майстроў грання па саломінцы

Сцяблінка жытняя — несамавіты
Музычны інструмент... Перш, чым запець,
Трымала колас над зямлёй, наліты,
Каб ён, па радасць людзям, мог даспець.

Філосафы, паэты, запрыкмецьце,
Даследуючы змест людскіх патрэб:
Раднейшага няма нічога ў свеце,
Як хлеб і музыка, як музыка і хлеб!

*1983*



## МОЙ ПАРЫЖ

З дарожнага цыкла,
якога не будзе

Парыж? А як жа! О, канешне!
Уразіў моцна — што й казаць.
Пасля такой паездкі — грэшна
Хоць колькі рыфмаў не звязаць.

Таму й пішу — у лад з натурай:
«Штоноч у сне, браткі, штоноч
Гляджу на... Полацк і на Тураў —
І не магу адвесці воч!..»

*1983*

## ВЫ ДУМАЛІ...

Вы думалі, што я сабраўся ў скачках
Прымаць удзел? Каб верны мне мой конь
Сыходзіў, зацугляны, пенай-жвачкай,—
Ляцеў за некім шустрым наўздагон?

Ну, што вы, што вы! Хіба я — наезнік?
І хіба конь для скачак у мяне?
Яго прызванне — плуг цягнуць жалезны,
Маё — ступаць услед па баразне.

*1983*

## ЗАМЕСТ МАЛІТВЫ

Калі ёсць ты, лёс мой. нада мною,
Аб адным прашу я: не дазволь
У міры з няпраўдай і хлуснёю
Дажываць мне век на свеце свой.

Не аддай душу у рабства гномам —
Узбунтуй, растурзай, распалі,—
Каб у ёй агні-маланкі з громам
Жыхалі ад неба да зямлі!

*1983*



## АЎТОГРАФЫ СЯБРОЎ

Аўтографы-надпісы вашы, сябры,
Чытаю на кніжках падораных —
З выказам даверу, навагі, любві,
З зычэннямі самымі добрымі.

Як многа іх, цёплых і ласкавых слоў,
Ад шчырага сэрца напісаных!
І колькі за імі пражытых гадоў
Жывымі ўзыходзяць абрысамі!..

Вось гэты згадаў мне аб даўняй вясне
З яе маладымі павевамі.
Дакорам не стаў ён сівой сівізне —
Навек мы, брат брату, паверылі.

Вось гэты... о, як акрыліў ён душу,
Прыйшоўшы ад майстра ад слыннага —
Якраз, калі мне аж калола ўвушшу
Ад крыку дурнога аслінага!..

Вось гэтыя — з братняга краю прывёз
Як словы прызнання ў прыязнасці.
Мне светла ад іх, як ад белых бяроз
На ўзлеску асеннім пры яснасці.

А гэта — апошні... Гляджу па радкі,
Што помню на памяць да каліўца,—
І зноў адчуваю той поціск рукі,
І сэрца ад болю сціскаецца...

Якія магутныя творцы-мужы,
Якія нязломныя волаты
Пайшлі па той бок векавечнай мяжы
Заўчасна, зарана, замолада!..

Жывіце ж да поўнага веку, сябры,
Не трацячы моцы і шчырасці!
І знайце: нішто нам віхуры-вятры,
Пакуль нашы шэрагі ў шчыльнасці!..

Я дзякуй кажу вам ад сэрца ўсяго.
Мне вашы дарункі-аўтографы —
Як вехі жыццёвага шляху майго.
А ён жа не будзе паўтораны...

*1983*



## ВЫПАДКОВЫ ГОСЦЬ

Салон у стылі найнавейшым,
Прытворны смех і гамана.
«Ці не пара паслухаць вершы
Пад гэту пеністасць віна?..»

Ах, вось за чым сюды я званы!
Каб вершам пяткі казытаць!
Каб праз саломку пунш духмяны
Яшчэ смачней было смактаць!..

О не, мадам! Для насалоды
Ён не прыдасца, верш мой, вам.
Я — не салонны, я — салёны.
Вы памыліліся, мадам!

Прагорклы я! Прагорк дашчэнту,
Як яблык з дзічкі на мяжы,—
Звядзе аскома вам пашчэнкі.
Чужы мой верш для вас, чужы!

Не можа вас ён бестурботна
Ні забаўляць, ні весяліць:
Яму ад цяжкіх дум журботна,
Яму ад горкіх страт баліць.

Ён лёсам стаў маім у полі,
Дзе ў горле пыл, дзе пот - цурком,
Ён хлебу чорнаму ніколі
Не зможа здрадзіць ні радком.

Прыроднай соллю-гаркатою
Ён абавязаны зямлі,
Што ёсць і будзе мне святою —
Куды б шляхі ні праляглі.

Прабачце мне, што ненарокам
Падсапсаваў пастрой гасцям...
Між іншым, самі — скуль вы родам?
Дзе падрасталі вы, мадам?

*1983*



## ЛЁС І ПЕСНЯ

Я аглядаў чужыя гарады.
Не нашы помнікі не нашай славы —
І быў ад крыўды зрок слязой засланы,
І біў у скроні думкі ток круты:

Нелітасцівы быў наш лёс, браты:
Красу, што продкі з любасцю стваралі,
Чужынцы з лютасцю агнём сціралі,
Каб не ўцалелі нават і сляды.

Але сціхаў няўчуты крык бяды —
І паўставала з небыцця нанова
Краса ў абліччы каменя і слова,
Каб зноў зрабіцца прахам праз гады.

І зноў кляліся прадзеды-дзяды:
«Сто раз памром, а не пакінем верыць
У нашу заўтрашнюю славу-веліч,
У нашы заўтрашнія гарады!..»

Даўно нам свеціць дзень наш малады,
Свой новы лёс народ спакойна творыць.
Адкуль жа ў песні праступае горыч?
З глыбінь вякоў: там — бездань гаркаты!

*1983*

## ПАМЯЦІ АНДРЭЯ ГЕРМАНАВА

Трыпціх

1

Па старажытных могілках у Софіі,
Дзе спачываюць годы і вякі,
Убачыў я вянкі, яшчэ не ўсохлыя,—
Павітыя жалобаю вянкі.

І зразумеў — раней, чым згледзеў літары
На чорным крэпе: гэта ты, мой брат!
І ўраз адчуў, нібы прысуд бязлітасны,
Як не гатовы я да гэткіх страт!..

Стаяў, паніклы, пад грудком уквечаным,
Што атуліў твой вечны супакой,
А ўсё ў душы крычала і пярэчыла,
Не мірачыся з крыўдаю такой.

Маўчала воддаль цэркаўка, не звонячы,
Акацый водар ліўся ў тленны дух...
А майскі дзень такі быў зырка-сонечны,
Што на імгненне для мяне патух.

А ў разналістай зеляніне могілак
Такі грымеў магутны гімн жыццю,—
Як быццам, спахапіўшыся, адмовіла
На гэты раз прырода небыццю.

2

Азлоблены век забівае
Найлепшых сяброў без пары.

Замены ж сябрам не бывае -
Навек нам даюцца сябры.

Аднойчы, няўзнак, па знаёмства
Абменімся поціскам рук,
Спаткаўшыся зноў — расстаёмся
Без смутку, тым болей — без мук.

Бо ў новыя верым сустрэчы
І знаем: іх безліч яшчэ.
Баяцца за іх — недарэчы,
І паша ад пас не ўцячэ!

Якая наіўнасць! Якая
Бяспечная стаўка на час!..
А наша так хутка ўцякае
Праз тлум-мітуслівасць ад нас!

І вось ужо ўсё: ні спаткацца,
Ні ўбачыць, ні голас пачуць,—
Стаяць і глядзець, як з акацый
Слязіны-пялёсткі цякуць...

3

Любы брат мой балгарскі Андрэй!
Віцязь-рыцар славянскага брацтва!
Знаю: будзе бясконца цяжэй
Мне цяпер за Дунай выбірацца.

Вось прыеду, вось гляну-зірну
У зялёныя Віташы вочы
і згадаю, як разам вясну
Мы з табой тут «гукалі» аднойчы...

Грэла сонца — і, мокры, блішчэў
На сцяжынцы лядок наздраваты.

Слухаць госця яшчэ і яшчэ
У той ранак хацеў нездарма ты:

І да песень матулі маёй,
І да нашай зямлі партызанскай
Неспадманна прырос ты душой,
Каб дзяліцца натхненнем і ласкай...

Дзякуй, брат мой балгарскі Андрэй!
Быў ты ўвесь з дабрыні і любові,
А любоў на зямлі не памрэ —
Па зямлі і ў паэтавым слове.

*1983*



## «БЯРОЗКА»

Яшчэ з галечы вёска
Не выйшла па вайне,
А родная «Бярозка»
Прынесла радасць мне.

У школе — пагалоска,
Гудуць сябры найперш:
«Ты бач яго: «Бярозка»
Надрукавала верш!..»

Зары ў акне палоска,
Газовачка дыміць.
Цяпер штоноч «Бярозка»
У сэрцы мне шуміць.

Ах, гулкі шляху лёскат!
Лічу не без прычын,
Што гэта ты, «Бярозка»,
Пазвала ў далячынь.

І я іду — няпроста,
Нялёгка, ды іду,—
Я ад цябе, «Бярозка»,
Адлік гадоў вяду.

Трымціць, як шчасця слёзка,
У памяці той дзень...
Паклон табе, «Бярозка»!
Расці і маладзей!

*1984*

## І ТАМ. НА ГАРЫНІ...

Чытаеш, як шчыра
нас хваляць у прэсе,
І раптам — вачыма
у гэткае ўпрэшся,
Што мутарна стане,
і сумна, і горка,
І боль дарастае
ад сэрца да горла.
Вось вычытаць собіла
допіс нязвыклы,
Што ў нас тымчасове
мяшочнікі ўзніклі,
Што дзесь на Гарыні,
дзе ў кветніках хаты,—
«Жытуху» стварылі
сабе тарбахваты.
На «жылу» напалі
рвачы-спекулянты:
Вывозяць — цюльпаны,
прывозяць — брыльянты!
Не бульбачку сеюць,
а кветкі для торгу:
За торбу насення —
чырвончыкаў торбу!..
Мне сорам, мне прыкра,
мне ўдарылі ў сэрца,
І хочацца крыкам
мне крыкнуць: «Не верце!
Няпраўда, канешне!
Хто бачыў і сведчыў?

Вы зблыталі пошта,
таварыш газетчык!
Каб добрыя нашы,
працоўныя людзі,
Сумленне прадаўшы,
пагразнулі ў брудзе?
Ды кіньце вы, кіньце!
Пабойцеся бога!
Жылі на мякінны —
не зналі такога!
Здароўем плацілі,
пракляўшы нягоду,
Але не пладзілі
мяшочнікаў зроду.
Тым болей — сягоння
адкуль ім узяцца?
Вунь песні на гонях
наўсцяж каласяцца!
Вунь з колішняй багны
іх доля ўзыходзіць.
Хто рупны і дбайны —
тым радасці хопіць!..
А што да заплечных
мяшочкаў дарожных —
Бясспрэчна, бясспрэчна:
іх знае ў нас кожны.
Любая другая
ці трэцяя хата
Дагэтуль хавае
з аснасткі салдата —
Паходную кайстру,
якую пранёс ён —
Як матчыну ласку -
між смерцю і лёсам...»
Так словы пратэсту
амаль выгукаю.

А позірк — у прэсу
ізноў утыкаю
І ўраз замаўкаю,
і, быццам у горы,
Шукаю апоры,
падмогі шукаю...
Куды ні паеду
па беламу свету —
Прызнанне я чую:
«Ты знаеш, хачу я
Сказаць табе праўду —
і праўду святую.
Той страшнай і грознай
ваеннай парою
Я ўвесь бы народ ваш
прадставіў к герою.
Усіх бы прадставіў:
і старцаў сіваенькіх,
І бабак старэнькіх,
і дзетак маленькіх,—
Усіх, што не сталі
ў бядзе на каленькі.
Я жыў і змагаўся
на вашай радзіме
І з вамі збратаўся -
па вечную намяць!
Таго, што я знаю,—
ніхто не адыме.
І тых, каму веру,—
ніхто не запляміць!
Л знаю адно я:
калі нада мною
Смерць чорныя крылы
ужо распластала —
Вярнула мне сілы,
жыццё ўратавала

І роднай матусяй
да скону мне стала —
Зямля Беларусі,
краіна Купалы.
Апошняй скарынкай
і солі драбінкай
Дзялілася шчыра,
а што немагчыма
Было спалавініць —
мне ўсё аддавала:
Апошнюю з цела
кашулю здымала
Каб мне было цёпла,
каб мог пры выпадку
Парваць па павязку
і кроўю не сцёк я...»
Куды ні паеду
па беламу свету —
Я споведзь пачую
такую, як гэту:
І скрозь за граніцай,
і ў межах Радзімы...
Дык як жа змірыцца?
Дык як жа маглі мы?
Каб бэсцілі дзесьці
нас добрыя людцы?
Нашчадкаў Палесся
і трох рэвалюцый?..
Я слухаў аднойчы
да позняе ночы
Былога
лясного салдата ўспаміны,—
Цяпер ён —
славуты паэт Украіны,
Даўно пасівелы,
як колісь — прыгожы.

Гаворыць — а зладзіць
са спазмам не можа.
«Было па Палессі,
было на прадвесні
У сорак чацвёртым.
Галодныя страшна,
Два дні мы балотам
ішлі бесшабашна.
Аслабшы дашчэнту,
на досвітку шэрым
Мы ў вёсачцы нейкай
пастукалі ў дзверы.
Старая жанчына
з сухімі вачыма,
Сказала: «Заходзьце,
пагрэйцеся, дзеткі.
Сцюдзёна — страхоцце! —
на сіверы гэткім».
Як цёпла з дарогі
і ў выстылай хаце!
«А хлебца хоць трохі
не знойдзецца, маці?»
«Няма, мае дзеткі,
усё да зярняці
Яшчэ на тым тыдні
павымелі злыдні».
«То, можа, хоць бульбін
нам зварыце колькі?»
«І бульбу забралі...
Усё — падчыстую.
Пакінулі толькі
мне хату пустую.
І то — ці надоўга?
Звяры не ўняліся...»
Старая прымоўкла.
А мы — падняліся.

«Ну, што ж, выбачайце
за гэту турботу!..»
Выходзім, каб чапаць
праз сівер і слоту.
Выходзім на ганак
і тут — нечакана:
«Пастойце, сыночкі,
А божа мой мілы:
Так памяць адбіла —
чуць грэх не зрабіла.
Ды ўспомніла раптам.
Вярніцеся, хлопцы:
Ёсць маку рукаўчык,
прыхованы ў копцы.
Усё — што не ўзялі.
Не ўбачылі, мусіць.
Хоць маку паешце —
каб голад не мучыў...»
І выняла смачны
частунак з пячуркі —
Маленькі рукаўчык
дзіцячай кашулькі,
Завязаны ніткай
і знізу і зверху,
І шухнуў-шушукнуў
мачок на талерку.
Мы бралі па шчопцю
у скрэплыя пальцы —
Ашчадна, каб мачынцы нават
не ўпасці,
І сыпалі ў рот,
і хрумсцелі тым макам,—
Мы елі з такім
апетытам і смакам,
Што цётка глядзела
і плакала моўчкі.

Л потым сказала:
«Шчаслiва, сыночкi!
Няхай вас мiнае
варожая куля!..»
«Павек вам сынамi
мы будзем, матуля!..»
Расказ партызана
я ўспомнiў да месца:
Было ж на Палессi,
за Прыпяццю дзесьцi!
Такiя, браточкi,
там знaлi мяшочкi:
Салдацкiя кайстры
або — рукавочкi,
Або — рукавочкi
дзiцячай сарочкi —
З апошнiм пажыткам:
«Паешце, сыночкi!..»
Хто мыслiць iначай
аб сутнасцi нашай —
Вы мыслi папраўце.
I лёс — не марнуйце!
Калi ўжо папраўдзе —
то я вам клянуся:
Адвеку, спрадвеку
нiдзе ў Беларусi
За ласку i кветкi
чырвонцаў не бралi,—
Адвеку, спрадвеку
iх так раздавалi.
Дарылi без грошай —
па шчасце дарылi:
I ў Мiнску, i ў Оршы,
i там, на Гарынi!..

*1984*

## СВЯТОЧНАЕ ПАСЛАННЕ
## ВАСІЛЮ БЫКАВУ

Дазволь мне, брат,
на старамодны лад,
З пагоды слаўнай,
у паклоне Маю,
Табе пасланне
прысвяціць...
Я знаю,
Што гэта форма
ўжо даўно адмерла,
Што не прынята
нават і на свята
Адрасавацца
да сяброў публічна.
Дый мне, прызнацца,
прамаўляць нязвычна
У гэткім жанры...
Любы-паважаны!
Прашу прабачыць,
што ў дзядоўскі спосаб
Рашыў адзначыць
нашай веры поступ.
Хай пнецца зух,
убраўшыся ў кажух,
Падвышаны стандартнаю
андатраю
Ці нестандартным пыжыкам,
хай пышыцца,
І хай сабе ў нядобрай корці
пішацца

Дублёначна-ўмілёначны
пагляд
Па сутнасць творчасці.
Спакойна, брат!
На варце праўды
ты стаіш, як калісь
Стаяў на ратным,
па крывавым полі,
Атакі грозпы
шквал перамалоўшы,
Непераможны
лейтэнант малодшы.
Стаяў — прыжмураны,
увесь абкураны
Не фіміямам,
а смярдзючым дымам,
Дзе дол нядаўна
уздымаўся дыбам,
Стаяў —
задыханы,
увесь абсыпаны
Не руж пялёсткамі,
не з лаўра лісцем —
Пяском — бялёса-
залацістым, чыстым
І — ненавісным,
бо — усюдыісным:
Ён на брывах
і на чупрыне русай,
І на павязцы,
набрынялай густа,
Пад рамянём,
за каўняром
і ў ботах,
І на губах,
патрэсканых глыбока,

І на зубах,
і ў горле,
і ўвушшу,
І больш таго —
ён нават у душу
Пранік, працёк —
удушлівы пясок,
Каб там застацца
і зрабіцца з часам
Твайго мастацтва
залатым запасам,
Каб і сягоння
памяць ветэрана
Душу спрадоння
болем працінала.
Не здрадзіў ты
святому абавязку:
Наш лёс круты
не выдаеш за казку.
Не можаш ты тварыць
эрзац-легенду,
Калі ўспамін смыліць —
аж не стрываць,
І хочацца,
як з раны бінт,
сарваць
Фальшывых слоў
накручаную ленту.
Таму табе
на векавой сяўбе
І абыходзіла
і абыходзіць,
Калі, не маючы
у сэрцы-памяці
Ні зерня праўды,
нехта хітры плодзіць

Прыгожую ману
пра страшную вайну,
А крытык,
чокнуўшыся з ім праз стол,
За тэму хваліць
і за інтанацыю,
Т шарлатана
ўзводзіць на прастол,
І чытачоў
заве на каранацыю.
Што тут параіш?
Не спасціг таварыш,
Што як ты блазна
ні ўзвышай прэстольпа —
А блазен плясне —
кончыць непрыстойна.
І ліха з ім!.. Салдат —
шануй салдата!
Хадзем на свята, брат,
хадзем на свята!
Яно далося нам
такой цаною,
Што радасць — напалам
з тугой, з віною.
Вось і падзелім —
радасць і надзеі
Патужым светла,
горка павініліся,
А кветкі
на свяшчэнных плітах Мінска
Тым пакладзём
ля Вечнага агню,
Хто з гэтым днём
здабыў нам цішыню.

*1985*

## З МАНГОЛЬСКАГА СШЫТКА

### 1. Анёл Манголіі

На століку ў салоне ТУ найновага
Шчасліва-клапатлівая манголка
Увішна, спрытна перапеляноўвае
Маслінавокага сынка-анёлка.

Наўзбоч, за шклом, пад промпямі апошнімі
Аблокаў белых сохнуць прасціраддзы.
А пасажыры, хоць усе бязбожнікі,
А вунь як гэткаму суседству рады!

Што праўда, сам анёлачак пуцаценькі
на іх пагляды ўвагі не звяртае:
Гугукае сабе і, нібы з цацкамі,
З губамі й носам маміным гуляе.

Ну, што ж, вітай яго, вітай, Манголія!
Хоць і на ТУ, а не па ўласных крылцах,
Анёл твой добры сыдзе ў стэпы вольныя,
Каб ім людскою радасцю іскрыцца.

### 2. Верш удзячнасці

***Пісьменніцы Санамын УдваЛ***

Удвал-гуай*, у гэны дзень, калі
Стаялі Вы ў Хатыні анямела
І думалі пра лёс маёй зямлі —
Упершыню Вам сэрца забалела.

Удвал-гуай, Вы знaлі пульсу збой
І як шалёна ходзіць сэрца — знaлі,
Але такі нясцерпна востры боль
У першы раз адчулі побач з намі.

Удвал-гуай, у тым няма віны
Маёй старонкі — не судзіце ж строга,
Што й кроплі з нашай памяці вайны
Для сэрца чалавечага — замнога.

Удвал-гуай, пакуль гляджу на свет —
Я помніць буду ў радасці і скрусе,
Што боль у сэрца Вам зайшоў навек,
Каб трохі менш балела Беларусі.

### 3. У юрце Сасорбарама

Сасорбарам, стары жывёлавод,
Сказаў мне так (а ён гаворыць мала):
«За год мой статак вырас на семсот —
І ні адно з народжаных не пала».

Госць піў кумыс і бозы** еў усмак,
А потым слухаў спевы аж да ночы,
І быў уражаны, што гэтак шмат
Народных песень тут у пашаноце.

Сасорбарам, стары жывёлавод,
Сказаў мне так (а ён гаворыць мала):
«Іх нарадзілася тут сотні сот —
І ні адна, я к помню я, не пала...»

### 4. Раз'ятраны вярблюд

Як ён імчыцца морам стэпу шэрага!
Як цупка след кладзе яго капыцце!

Як страшна пена валіцца з ашчэранай
Пачварнай морды! Гэй, набок сыдзіце!

Жывыя ўсе — хутчэй набок схініцеся
Ад гэтай дзікай лютасці звярынай!
Насмерць здратуе, стопча вас без літасці,
Яшчэ й абдасць зялёна-жоўтай слінай!

Ён ашалеў, раз'ятрыўся ад прыступу
Прыроднай корці, ад успышкі юру —
Ляціць насустрач далечы расхрыстанай,
З пяску і ветру дыблячы віхуру...

Калі ж нарэшце зможацца, расслабіцца,
Ашляхне кроў — ён рыме выгляд звычны
І будзе зноў даверлівы, пакладзісты
І, я сказаў бы, нават сімпатычны.

*1985*

* Гуай — форма пашаноўнага звароту да старэйшай па ўзросту жанчыны.

** Бозы — дробныя мучныя клёцачкі, начыненыя мясам.

**ВЕРШ
ПРА ЗОЛАТА ПАЭТА**

Балючы ліст прыйшоў:
Ва ўрочышчы,
Дзе быў прытулак песняра,
Разруйнаваны,
Разварочаны
Астатні знак яго двара.

Падмурак хаты слынна-песеннай,
Куды калісь, бы ў храм, ішлі,
Ператварыўся ў друз,
У месіва
Камення, цэглы і зямлі.

І паграбкі-скляпкі
З усходкамі,
Што крокі помнілі яго,
Разбіты ўшчэнт...
А хто ж усё-такі
Наруйнаваў? І для чаго?

Разбагацець імгненна марачы
(А раптам шанц?
Дык не ўпусці!),
Рвачы прыезджыя, архараўцы
Там клад надумалі знайсці.

Пра скарбы ў спратах
Чулі шмат яны.

Што іх знаходзяць —
Не сакрэт.
Ці не схаваў
Пад хатай матчынай
Гарнушак золата
Паэт?

Скапалі,
Зрэзалі бульдозерам
Старога котлішча сляды,
І — ні грашом
Не ўзнагародзіўся
Энтузіязм іх сляпы.

Ах, апантаныя шукальнікі
Каштоўных скарбаў!
Як відаць,
Былі ў вас кепскія настаўнікі:
Не навучылі, дзе шукаць.

Багацце трэба вам паэтава?
Дык калі ласка!
Вось яно.
Бярыце!
Ён жа дзеля гэтага
Капіў — з народам заадно.

Для вас капіў —
Для ўнукаў-праўнукаў,
Што будуць жыць —
Не як краты,
А будуць,
Сонца, высяў прапішчы,
Арлам, што ўславіў ён,
Браты.

Яго
Вышэйшай пробы золата
Ніякім іншым не зацьміць.
Яно звініць —
Натхнёна, молада
Над краем
Песнямі звініць.

*1986*



О, Беларусь!
Мой лёс,
Мой першы боль,
Мая нявыспеваная давеку
Песня!
Зноў чую:
Сэрца поўніцца табой
Разломна —
Як рака парой прадвесня.

*1986*



## ВЫ ШУМІЦЕ, БЯРОЗЫ

Вы шуміце, шуміце
Пада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце
Свой напеў векавы.
Л я лягу-прылягу
Край гасцінца старога
Па духмяным пракосе
Недаспелай травы.

А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,
Па высокі курган,
А стамлення рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі ў даліну —
Хай накрые туман...

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Асыпайце, мілуйце
Ціхай ласкай зямлю.
А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога:
Я здарожыўся трохі.
Я хвілінку пасплю.

*1963*

## НА ПРЫВАЛЕ

Адвячоркам на ўзлессі,
На кароткім прывале,
Мы салдацкія песні
Пад гармонік спявалі.
Толькі сябра наш воддаль
Сумаваў нездарма:
Хлопцу весткі ніводнай
Ад каханай няма.

Не было б абяцання,
Слоў тых ласкава-шчырых,
Што ў хвіліну расстання
Паўтарала дзяўчына,—
Не тужыў бы так моцна
Ён па сініх вачах,
Бо характарам хлопец
Першы ў нас весяльчак.

Наш удалы равеснік,
Верны друг і таварыш,
Нібы ў сонечнай песні —
З ім душы не захмарыць
Ой, ці знае дзяўчына
У далёкім сяле,
Як пакрыўджаны ёю
Хлопцы роты ўсяе!

*1955*

## Я СПЯШАЎСЯ ЗА ТАБОЮ

Я спяшаўся за табою
Сінім золкам, ясным раннем,
Углядаўся ўдаль з тугою:
— Дзе ж ты, дзе, маё каханне?

Я спяшаўся бездарожжам,
Цераз буры, цераз ліўні.
Ні завеі, ні марозы
Перашкодай не былі мне.

Ды, відаць, прайшоў я мала,
Калі ты мне не далося.
Толькі рэха далятала.
Звонкай песні адгалоссе...

Што ж, я сёння больш у сэрцы,
Чым калісьці, сілы маю.
Дзе ні будзеш ты на свеце —
Я знайду цябе, спаткаю!

З краю ў край прайсці, праехаць
Я гатоў пад гэтым небам,
Бо не водгалас, не рэха,
А сама мне песня трэба!

*1956*

## У ПРЫСАДАХ ВЕЧАРОВЫХ

Без сцяжынкі, без дарогі
Ходзіць месяц срэбнарогі,
Ходзіць месяц, выглядае:
Дзе ты, зорка маладая?

А ў прысадах вечаровых
Стыне водар траў мядовых.
Там, дзе я хаджу-блукаю —
Сваю зорачку чакаю.
Не міргай мне, ясны месяц,
І з мяне дарма не смейся:
Я ж не так сабе блукаю —
Сваю зорачку чакаю.

Яна прыйдзе, хутка прыйдзе,
Не пакіне сэрца ў крыўдзе.
Цішы верыць не хачу я:
Штосьці чую. Штосьці чую!

А ў прысадах вечаровых
Стыне водар траў мядовых,
Там, дзе я хаджу-блукаю —
Сваю зорачку чакаю.
Не міргай мне, ясны месяц,
І з мяне дарма не смейся:
Я ж не так сабе блукаю —
Сваю зорачку чакаю.

То не лісця шолах сонны,
Не крынічак перазвоны,

Не дубровы спеў далёкі —
Чую, чую мілай крокі.

А ў прысадах вечаровых
Стыне водар траў мядовых,
Там, дзе я хаджу-блукаю —
Сваю зорачку чакаю.
Не міргай мне, ясны месяц,
І з мяне дарма не смейся:
Я ж не так сабе блукаю —
Сваю зорачку чакаю.

*1956, 1986*



## ШТО Ж ТЫ. ЯГАДА-КАЛІНА...

Што ж ты, ягада-каліна,
Так нядоўга красавала?
Што так рана ўскрай даліны
Цвет абсыпалі галіны?

Можа, ветрам пазрывала?
Ці туманам патачыла?
Ці дажджом паабівала,
Калі бура бушавала?

Дамаўлялася дзяўчына,
Што мяне пакліча ў госці,
Калі ў лузе над далінай
Будзеш ты цвісці, каліна.

Абяцала, што па пошце
Прыйдуць пісьмы заказныя.
А сама пе ніша штосьці,
А сама не кліча штосьці...

Ціхім сумам сэрца пыс,
І чакаю дзень пры дні я...
Па каліне ж пры даліне
Спеюць ягады буйныя.

*1956*

## ПЕСНЮ БЯРЫЦЕ З САБОЮ

Калі, не жадаеце знацца ў жыцці
З назойлівай скрухай-журбою —
Куды б ні прыйшлося паехаць, пайсці,—
Песню бярыце з сабою!

Ці клікне вас мора туманная даль
Нямоўкнучым гулам прыбою,—
Пакіньце па беразе смутак і жаль!
Песню бярыце з сабою!

Ці ляжа сцяжына праз пушчу-тайгу,
Нязведанай нетрай глухою,—
Выкіньце з ранцаў і сэрцаў тугу!
Песню бярыце з сабою!

Калі вы далоні злучылі павек.
Каб крочыць дарогай адною,—
На шчасце, на згоду, як дар-запавет —
Песню бярыце з сабою!

Калі ж над Радзімай прамчацца вятры —
Прадвеснікі блізкага бою,—
З вінтоўкай, з гранатаю разам, сябры,
Песню бярыце з сабою!

*1956*

## У БАЦЬКОЎСКІМ КУТКУ

У бацькоўскім кутку —
Краі слынных бароў —
Помню ўсмешку тваю,
Позірк, ясны без слоў.

Выйду ўранку зару
Сустракаць за сяло —
Тваіх рук, мілых рук
Прыгадаю цяпло.

Салаўі запяюць
Па аселіцы дзесь,—
Чую песню тваю,
Заварожаны ўвесь.

Зажурчыць ручаёк —
Аж у сэрца кальне,
Быццам гэта тваё
Слова ласкі ка мне.

У бацькоўскім кутку
Водар зёлак лясных
Я ўдыхаю, я п’ю,
Нібы з вуснаў тваіх.

Ціхі ветрыка лёт,
Што галубіць зямлю,
Як дыханне тваё,
Пераймаю, лаўлю.

Прыйдзе зорная ноч,
Цішай дол ахіне —
Сваіх воч, карых воч
Не адводзь ад мяне.

І праз далечаў даль,
І скрозь морак начны —
Я змагу разгадаць,
Што мне скажуць яны.

*1956*



## САНЕТ ПАМЯЦІ

Часцей, часцей прыпамінай
Імёны паўшых смерцю храбрых
За родны край, наш мілы край,—
Каб над зямлёй, што млела ў ранах,
Плыў гэты сіні-сіні ранак,
Цвіў гэты белы-белы май,—
Часцей, мой друг, прыпамінай!

Прыпамінай часцей, мой друг,
Імёны тых, што ўсё зрабілі —
Вышэй усіх тваіх заслуг,
Што, як і ты, да слёз любілі
Маністы ўвосень на рабіне
І ў росных смолках майскі луг,—
Не забывай пра іх, мой друг!..

*1960*

## НЕ ПЫТАЙСЯ, МАЦІ

Не пытайся, маці,
Не шукай прычыны,
Вечарамі ў хаце
Не трымай дзяўчыны.

Ёй нялёгка, мабыць,
Расказаць пра тое,
Што так моцна вабіць
Сэрца маладое:

Ці таполяў стромкіх
Таямнічы шолах?
Ці зарніц далёкіх
Пораміг вясёлы?

Ці мядункі ў лузе
Водар вечаровы?
Ці вачэй і вуснаў
Змовы-перамовы?..

Не пытайся ж, маці,
Не пярэч ты выйсці:
І цябе ў семнаццаць
Сон не браў калісьці.

Не пытайся ўвечар,
Не сварыся ўранку:
Маладым не вечна
Сустракаць заранку.

*1960*

## ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ МАЁ СЭРЦА?

Ці ведаеш ты, як спявае яно,
Калі цябе ў радасці бачыць?
Ці знаеш, як цяжка ўздыхае яно,
Калі цябе стрэнуць няўдачы?

Ці знаеш, як радасна б'ецца яно,
Пачуўшы знаёмыя крокі?
Як моцна тугой апаўецца яно,
Правёўшы цябе ў шлях далёкі?

Ці чуеш ты, як не пускае яно,
Калі ты ступаеш няверна?
Ці ведаеш, як замаўкае яно,
Калі яго крыўдзяць бязмерна?

Ці ведаеш ты, як баіцца яно,
Каб веры і кроплі пе страціць?
Ці знаеш, што можа спыніцца яно,
Калі яму, шчыраму, здрадзіць?..

*1961*

## Я ХАДЖУ, ЗАКАХАНЫ...

Я хаджу, закаханы
У твае краявіды,
І шапчу як прызнанне:
О, мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь:
І трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі,
І любоў, і грахі...

Колькі доля ні судзіць
Мне далёкіх вандровак —
Я вярнуся навечна
Ў засень клёнаў тваіх.
Толькі з роднага долу,
Толькі ў роднай дуброве —
Як не дрэвам, хоць зёлкай
Прарасту для жывых.

*1961*

## ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСІ

Зямля Беларусі, старонка мая,
Сыноўняга сэрца падзея!
Мне радасна сёння, што доля твая
Пад сонцам вясны маладзее.

Прайду цябе ўсцяж за вярстою вярсту
Дзе Гомель, дзе Орша, дзе Гродна —
Пазнаю цябе на тваім характву,
Па песні і гутарцы роднай.

Ад сіняга Буга да плёсаў Дняпра —
Твае не акінуць прасторы.
Сястра Украіны — Расіі сястра,
Ты з імі і ў шчасці і ў горы.

Я зведаў нямала далёкіх дарог —
Было мне ні мулка, ні дрогка,
Але як між родных палёў і бароў —
Нідзе я не дыхаў так лёгка.

Зямля Беларусі, старонка мая.
Сыноўняга сэрца надзея!
Мне радасна сёння, што доля твая
Пад сонцам вясны маладзее.

*1963*

## ПЕСНЯ ПРА БАЛГАРЫЮ

Хіба калі-небудзь забуду я край,
Дзе горныя пікі
Снягамі пакрыты,
Дзе белыя домікі
Лозамі ўвіты,
Дзе промні, як струны,
Звіняць самавіта,—
Хіба я забуду
Той казачны край?
Хіба калі-небудзь забуду я край,
Дзе мілая Софка
Віно разлівала,
Віно разлівала,
Хлеб-соль падавала,
Пяшчотную ўсмешку
За вейкі хавала,—
Хіба я забуду
Гасцінны той край?
Хіба калі-небудзь забуду я край,
Дзе кроў маіх продкаў
Свабоду крапіла,
Дзе ружы не вянуць
На брацкіх магілах,
Дзе помнікі славы
Па ўсіх небасхілах,—
Хіба я забуду
Братэрскі той край?

*1963*

## НА ЖАЎРАНКАВЫМ ДОСВІТКУ

Мой мілы птах,
Мой жаўранак,
Ты што так рана ўзвіўся?
Яшчэ зары пажарам
Усход не запаліўся.

Чаго звініш так радасна
Сярэбраным званочкам?
Ці што ўзыходзіць раніца?
Ці што мінае ночка?

Ці ўгледзеў нас звысоку ты
І сыпануў з-пад неба:
«Шкада, шкада, а ўсё-такі
Вам развітацца трэба!»

*1965*



## ВЕЧАРОВАЯ ПЕСНЯ САМОТНІЦЫ

Вечар сцеле туман над крыніцай,
Вецер вее з палян медуніцай.
Як маркотна такою парой мне адной
Без цябе, любы мой, мілы мой!

Клёны-ясені спяць,
Сны шчаслівыя сняць,
Вечар іх атуліў шызакрылы.
Толькі я ля акна
Не засну давідна,
Буду думаць, пытаць: дзе ты, мілы?

Месяц хітра смяецца над хатай,
Быццам кажа: «Сама вінавата».
Я ж не знаю віны, акрамя як адной,
Што кахаю цябе, мілы мой.

Вербы-явары спяць,
Сны шчаслівыя сняць,
Вечар іх атуліў шызакрылы.
Толькі я ля акна
Не засну давідна,
Буду думаць, пытаць: дзе ты, мілы?

Ветла зорачкі ў небе міргаюць,
Толькі зорачкі мне спагадаюць,
Быццам кажуць яны: «Не сумуй,
не тужы,
А каханне — шануй, беражы».

Вішні-яблыні спяць,
Сны шчаслівыя сняць,
Вечар іх атуліў шызакрылы.
Толькі я ля акна
Не засну давідна.
Буду думаць, пытаць: дзе ты, мілы?

*1965*



## КРАЙ МОЙ БЕЛАРУСКІ

Кран мой беларускі, край!
Дай мне прыгарнуцца, дай!
Да твайго лясного
Вераснога долу,
Дзе так шчасця многа
Выпала на долю,—
Дай жа прыгарнуцца, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне напіцца, дай!
Той вады гаючай
З той крыніцы вечнай,
Дзе ад ран балючых
Ты арлоў вылечваў,—
Дай жа мне напіцца, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне паслухаць, дай!
Як на лад пявучы
Старажытнай мовы
Тут гамоняць пушчы,
Там шумяць дубровы, —
Дай жа мне паслухаць, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне прайсціся, дай!
Па тваіх прасторах,
Па шляхах бясконцых,

Уначы — пры зорах,
Раніцой — пры сонцы,—
Дай жа мне прайсціся, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай мне наглядзецца, дай!
На твае на пожні,
На лугі ды рэкі,
Каб у час апошні
Ўзяць з сабой навекі,—
Дай жа наглядзецца, дай!

*1966*



## БАЛАДА Ў ЧОРНЫМ

На бязмоўных вуліцах
Цемень залягла.
Чорны цень сутуліцца —
Сочыць з-за вугла.
Цокаюць падкоўкамі
Боты аб асфальт.
Чорныя палкоўнікі
Чыняць чорны гвалт.

Чорных полаў цемрыва.
Чорных колаў лязг.
Дула рэвальвернага
Варанёны бляск.
Вязніца халодная —
Цёмны-цёмны склеп.
Стужачка жалобная —
Чорны-чорны крэп.

Нават неба зорнае
Не цвіце ўгары:
Як вуголле чорнае
Размялі вятры.
Чорная Мядзведзіца,
Чорны Млечны шлях...
Ну, а што там свеціцца —
Зблізку і здаля?

Гэта — слёзы матчыны,
Іскры горкіх слёз,—

Каб жывыя ўбачылі,
Дзе іх светлы лёс,
Гэта — гневу полымя
У вачах сыноў:
Выйдзе край няскораны
З чорных кайданоў!

*1969*



## ПАЛЫНОВАЯ РОСТАНЬ

Знаю: мне не вяртацца
Гэтым шляхам ніколі —
На апошнюю ростань,
На спатканне з былым.
Белай стужкай дарога
Раскацілася ў полі,
А па ўзбочча дарогі -
Толькі шызы палын.

Ад запозненай мары,
Ад шчаслівай трывогі
Мне навек застанецца
Сумна-горкі ўспамін.
Сонцам плавіцца далеч,
Дзень самлеў ад знямогі,
А па ўзбоччы дарогі —
Толькі шызы палын.

Заўтра недзе далёка
Ты ўсміхнешся міжволі:
Неба нізкім не стала,
Свет не здаўся малым...
А мая мне дарога
Белай стужкай у полі,—
А па ўзбоччы дарогі —
Толькі шызы палын.

*1973, 1986*

## ВЯРНУЎСЯ САЛДАТ НА РАДЗІМУ

Вярнуўся салдат на радзіму,
Закончыўшы доблесны шлях,
Са стужкаю чорнага дыму
На некалі сініх вачах.
Заплакалі родныя з гора.
А ён іх журбы не сцярпеў:
«Падайце гармонік!» —
сказаў ён бадзёра
І дзіўную песню запеў:

«Край мой родны,
Беларускі, любы край!
Ты адзін мне на планеце —
Светлы рай!
Дзе ні быў я,
Дзе ні ехаў, ні ішоў —
Прыгажэй, чым ты,
Старонкі не знайшоў».

З вагона ў вагон для падачак
Яго павадыр не вадзіў,
Тужліваю песняй жабрачай
Ён жалю к сабе не будзіў.
Ён вечарам з дому выходзіў.
На лаўцы пад клёнам сядаў,
Мяхі паслухмянай трохрадкі
разводзіў
І шчыра, натхнёна спяваў:

«Край мой родны
Беларускі, любы край!
Ты адзін мне на планеце —
Светлы рай!
Дзе ні быў я,
Дзе ні ехаў, ні ішоў -
Прыгажэй, чым ты,
Старонкі не знайшоў».

Прыходзілі хлопцы, дзяўчаты —
Па музыцы млела душа.
Як быццам былі вінаваты —
Стаялі маўкліва спярша.
А ён ім гукаў: «Не журыцца!
Ану — памагайце як след!
Спявайма, браточкі,
Спявайма, сястрыцы,
Ды так, каб пачуў цэлы свет:

«Край наш родны,
Беларускі, любы край!
Ты адзін нам па планеце —
Светлы рай!
Дзе ні быць нам,
Дзе ні ехаць, ні ісці —
Прыгажэй, чым ты,
Старонкі не знайсці!»

*1985*

## ПЕСНЯ
## ПРА АПОШНЯГА З АДНАПАЛЧАН

Пад роднаю зямлёй звон сонечны плыве.
Зялёны май заліў пагоркі і лагчыны.
Чаго ж у гэткі дзень не весела табе?
Скажы, стары салдат, скажы, герой Айчыны.
Ты ўсё зрабіў, што мог: ты мір здабыў, салдат,
І край падняў з руін, і даў прызванне дзецям,
І ўвагай землякоў, і славай ты багат.
Чаму ж блішчыць сляза па вейках у гвардзейца?

Ці не таму, салдат, што не спаткаць ужо
Аднапалчан табе, што ты з палка — апошні?
І некаму сказаць, абняўшы за плячо:
«А помніш, як зімой у сорак трэцім, помніш?
Па сем атак у дзень — на шквал агню стальны!
Мы пасля кожнай з іх — шырока дол капалі.
Якіх сяброў, браток, мы клалі без труны
У мёрзлую зямлю, якіх людзей хавалі!..»

Над роднаю зямлёй звон сонечны плыве.
Зялёны май заліў пагоркі і лагчыны.
Дык аднаго ж, салдат, лёг цень на твар табе,
Па сівізну тваю, на светлыя маршчыны?
Ці не таму, што зноў да гібельнай мяжы
Падведзен свет, які адваяваў ты ў смерці?
Тады скажы, салдат: «Ратуйце мір! — скажы,
Апошні я, скажы, апошняму — паверце!..»

*1985*

## НАША ЗОРКА НЕ ЗГАСЛА

І зноў у родны край спяшаецца вясна —
На рэках точыць лёд і плавіць снег на ўлоннях.
Ды не паддасца ёй той іней, што у нас
Закудравеў, зацвіў на скронях.
А помніш: асыпаў нас белым цветам май,
І ўвесь бязмежны свет нам расчыняўся насцеж,
І рвалася душа у даль, за небакрай -
Услед за мараю пра шчасце.

Не, нам не забыць,
Як на зары пас акрылялі надзеі,
Я к нашай вясне,
Нашай любві шчыра мы ў вочы глядзелі,—
не забыць!..
Мы верылі ў вясну, а грозны час прынёс
І сцюж зімовых шмат і душных спёк нямала.
І ўсё ж не ў крыўдзе мы на свой суровы лёс,
І усё ж нас гора не зламала.
І хоць ляцяць гады на крылах аблачын,
І сосны ўсё гучней нам шалясцяць аб вечным,—
А сэрца, як раней, імкнецца ўдалячынь,—
І рады мы вятрам сустрэчным.

Не, нас не спыніць,
Нашай вясны зорка-дзяппіца не згасла,
Хай песня звініць —
Песня жыцця, долі, што свеціць нам ясна,—
хай звініць!

*1985*

## МОЙ ЛЁС — КАХАННЕ

Прыйдзі — як снег на квецень маю,
Прыйдзі — як бура на зямлю,—
Не страшна мне, бо я — кахаю,
Не скрушна мне, бо я — люблю.

Я ўсё сцярплю, я ўсё стрываю
І ўсё навек благаслаўлю —
Адно адчуй, як я кахаю,
Адно спазнай, як я люблю.

Ці зладжу я з сабой — не знаю,
І аб адным цябе малю:
Не папракай, што я кахаю,
Не праклінай, што я люблю.

*1985*

## З М Е С Т

### В е р ш ы

П е с н і

**Гілевіч Н.**

Повязь: Вершы і песні/Маст. С. Пчалінцаў.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 110 с.. іл.

У новую кнігу вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Ніла Гілевіча ўвайшлі вершы і песні з лірычным і філасофскім роздумам пра лёс Радзімы, пра наш час, пра родны край, гімн чалавеку — чалавеку-працаўніку, гаспадару свайго лёсу.

ББК 84БС.17